


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова

№40 (50) • 20—26 лістапада 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)




## Поступ тыдня

З УДЗЕЛАМ С. ШУШКЕВІЧА ДАСЯГНУТА ПАГАДНЕННЕ СЯМІ БЫЛЫХ РЭСПУБЛІК АБ СТВАРЭННІ САЮЗА СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ. Дамоўлена, што гэта будзе канфедэратыўная дзяржава з агульнасаюзнымі органамі — парламентам, прэзідэнтам, узброенымі сіламі. Аднак радавому грамадзяніну пакуль што цяжка зразумець, чым новае ўтварэнне адрозніваецца ад былога Саюза...

*ПАДПІСАНА палітычнае пагадненне паміж Беларуссю і Азербайджанам тэрмінам на 10 гадоў і пагадненне аб прынцыпах эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх рэспублік.*

БЕЛАРУСКІ ЎРАД ПАСТАНАВІЎ УВЕСЦІ З НОВАГА ГОДА КУПОНЫ З КАРТАЧКАЙ СПАЖЫЎЦА. ДРУГОЙ ПАСТАНОВАЙ АДВОДЗЯЦЦА ЎСІМ, ХТО ПАЖАДАЕ, ЗЯМЕЛЬНЫЯ ЎЧАСТКІ: фермерам — да 50 га, для асабістай прысядзібнай гаспадаркі — да 1 га, на будаўніцтва і абслугоўванне жылога дома — 0,25 га, індывідуальным садаводам — 0,1 га. 1300 га адводзіцца толькі для мінчан на будаўніцтва жылых дамоў. Гэта ўжо не першая важная пастанова па зямлі. Аднак у жыцці пакуль не відаць ніякіх зрухаў.

*СТВАРАЮЦЦА СВАБОДНЫЯ ПРАФСАЮЗЫ БЕЛАРУСІ. Пры выпрацоўцы іх статута выкарыстаны вопыт сусветнага прафсаюзнага руху, у прыватнасці, выкарыстаны вопыт сусветнага прафсаюзнага руху, у прыватнасці, польскай «Салідарнасці». Новая арганізацыя не будзе ісці на канфрантацыю са старымі прафсаюзамі.*

УСЁ БЫЛО падобна на сон. ГРУПА ТЭРАРЫСТАЎ ЗАХАПІЛА ІГНАЛІНСКУЮ АЭС І ПРАД'ЯВІЛА ЎЛЬТЫМАТУМ УРАДАМ ЛІТВЫ І РАСІІ. КАЛІ ПАТРАБАВАННІ НЕ ВЫКОНВАЮЦЦА — УЧЫНЯЕЦЦА ДРУГІ ЧАРНОБЫЛЬ. Гэта не гульня словамі: 8 лістапада — якраз тады разыгрывалася драма — вецер дзьмуў на Беларусь. ЯК БАЧНА, МЫ ЎСЕ ЗАСТАЕМСЯ ЗАЛОЖНІКАМІ Ў ТЭРАРЫСТАЎ І ПРАЙДЗІСВЕТАЎ.

*Бачылі?*

## Тэлевізійнае адраджэнне слова

Няма сумненняў, што тэлебачанне валодае «сакрэтам» прыцягнення гледачоў. Пагадзіцеся, што і самі вы неаднойчы скараліся перад усемагутнасцю «блакітнага агеньчыка», адкладвалі ўбок цікавую кніжку.

Шкада аднак, што сярод цікавых, захапляючых перадач мала на нацыянальную тэматыку, такіх, якія б служылі справе беларусізацыі, абуджалі народную самасвядомасць. Таму давodзіцца вітаць адраджэнне перадачы «Роднае слова», якая амаль год не выходзіла на тэлеэкраны.

У першым аднаўленым выпуску перадачы журналісты, героі тэлесюжэтаў павялі зацікаўленую гаворку пра тое, як выконваецца Закон аб мовах. Інтэрв'ю з гэтай нагоды далі начальнік Упраўлення ВНУ і педагагічнай адукацыі Міністэрства народнай адукацыі М. Плескацэвіч, старшыня Дзяржтэлерадыё Рэспублікі Беларусь А. Сталяроў, народны дэпутат Я. Цумараў, загадчыца менскага дзіцячага садка «Заранка» Г. Прыма.

Захавана і традыцыйная рубрыка «Культура мовы». На гэты раз сюжэт быў прысвечаны прыназоўнікам «па» і «за», ужыванне якіх апошнім часам у беларускай мове парушана, хоць і існуюць цвёрдыя і добра распрацаваныя з гэтай нагоды правілы.

Вядзе перадачу загадчык рэдакцыі мовы і літаратуры выдавецтва «Народная асвета» Мікола Станкевіч, а рыхтуе яе Уладзімір Содаль.

А. К.

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ*

### БАГДАНОВІЧУ

*Сцюжны час, бязмежна-суровы.*
*Спіць народ, нібы зерне ў раллі.*

. . . . . . . . . . . . . .

*Ты прыйшоў*
*І гарачым словам*
*Рунь узняў на роднай зямлі.*
*Ты сказаў нам:*
*«Унукі Скарыны,*
*Дзе ваш гонар, моц і краса?*
*Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.*
*Не давайце святыні псам!*
*Не давайце з яе глуміцца,*
*Бо праспіць яна ясну зару,*
*Бо святы ізумруд заімгліцца*
*У пярсцёнку тваім, Беларусь».*
*Ты ўстаў на лютую сечу,*
*Бітву вечную сонца і хмар,*
*Узваліўшы на юныя плечы*
*Святагораў народны цяжар.*
*І не вынеслі жылы напругі:*
*Знік ты, лебедзь, у хвалях сівых,*
*Сплыў крывёю, загінуў «за другі»,*
*За мяне, за вас і за ўсіх.*
*І застаўся ты ў нашых душах,*
*Хоць навекі знік у палях,*
*Вечна светлы і вечна дужы,*
*Вечна юны, як наша зямля.*
*Мы табой ганарымся — і плачам.*
*Мы нясём цябе ў сэрцы праз дым.*

. . . . . . . . . . . . . .

*Нізка голаў схіляю, юнача,*
*Перад вечным глаголам тваім.*



Тры гады назад прыехала ўзбекская сям'я Назіравых з Ферганскай вобласці на Беларусь — у вёску Бывалкі, што на Лоеўшчыне. Дзевяць дзяцей у Любові Юр'еўны і Мірзаліма-агі. Старэйшыя ўжо свае сем'і маюць. А малодшыя — Насіба, Алеся і Эркін — яшчэ ходзяць у школу. Эркін (на здымку) — чацвёртакласнік, ён дапамагае бацькам па гаспадарцы. Не забываючыся на роднае ўзбекскае слова, Эркін Назіраў старанна авалодвае беларускай мовай. Любімы пісьменнік ўзбекскага хлопчыка — Уладзімір Караткевіч.

Фота М. ХАМЦА.

*Але!*

## Хто пачуе «Гоман»?

У сакавіку 1990 г. у Бабруйску створаны беларускі гісторыка-культурны клуб «Гоман» — сябрына Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Ёсць у «Гомана» свой Статут, сцяг і эмблема. Нельга без хвалявання чытаць заклік са Статута: «...спыніць ганебны працэс нацыянальнай асіміляцыі!..» Пад назвай «Гоман» выходзіць і газета клуба, ужо пабачылі свет чатыры нумары, кожны з якіх колькасцю 999 паасобнікаў.

Калі надараюцца святы, сябры клуба імкнуцца адзначаць іх разам. Жыхары Бабруйска і зараз памятаюць святкаванне Калядаў. У сябрыне ўсяго 15 чалавек. Няўжо болей няма на радзіме Барыса Мікуліча і Платона Галавача свядомых беларусаў? На гэта пытанне адказвае скарбнік клуба Міхась Кавалеўскі:

— Канешне ж, свядомых людзей у Бабруйску куды болей, але ёсць у нас адна бяда. Ніяк не можам знайсці памяшканне для свайго «Гомана». Звярталіся ў гарвыканкам і самі, і праз Рэспубліканскую Раду ТБМ. Ды толькі справа з месца не зварухнулася.

Да слоў М. Кавалеўскага патрэбна дадаць, што ў Бабруйску працуюць клубы іншых нацыянальнасцей, якім ёсць дзе размясціцца. А дзе ж дзецца беларусам?

А. К.

*Але!*

## А мова наша — для экзотыкі?

Вось, здавалася б, рэклама — найцудоўнейшая магчымасць увогуле далучыцца да беларускага слова, паціху, паступова ўслухоўвацца ў яго сутнасць. тым больш, што да неабходнасці працаваць у галіне рэкламы падыйшлі б літаральна ўсе, калі не большасць газет. Хіба што «Наша слова» і «ЛіМ» маюць такую «раскошу» не зарабляць грошы на рэкламе... Але ж у шматлікіх газетах рэкламу і беларускае слова спалучаюць толькі ці не ў назве.

Як прыклад — новая рэкламна-інфармацыйная газета «Кірмаш». Заснавальнік — газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь». Шыкоўная газетная «фірма-шыльда» адкрывае першы нумар. І ў малюнках — беларускі арнамент. На другой старонцы — інтэрв'ю Таццяны Падаляк з начальнікам Упраўлення ВНУ і педагагічнай адукацыі Міністэрства народнай адукацыі Беларусі Міколам Плескацэвічам «Віват, акадэмія!» Што ні кажы, цікавая гутарка! Ды і ёмісты кавалачак яе прысвечаны працэсу беларусізацыі ў беларускіх ВНУ. Праўда, на завяршэнне публікацыі — рускамоўная табліца пра конкурс у ВНУ Беларусі ў гэтым годзе. Вось і ўся беларуская вопратка «Кірмашу»!

У якасці аргументаў выдаўцы рэкламнай газеты могуць адрасаваць нас да попыту: маўляў, чытач у нас рускамоўны — і ўсё тут. Дык калі ж «кірмашоўцы» ва ўсім служкі «чытачовы» (а не сумленныя, з пачуццём уласнай годнасці слугі), то навошта і сама назва (няхай тады ўжо — «Ярмарка») і інтэрв'ю «Віват, акадэмія!» з клопатам пра беларусізацыю ВНУ?! Атрымліваецца, што на якой мове хто што прынёс — на такой і друкуем?

Праўда, дзеля таго, каб паказаць, што і мы (хто мы — беларусы?) не лыкам шыты, рэкламна-інфармацыйная газета пачынае друкаваць «Размоўнік «Кірмашу». Зразумелая справа — ведання англійскай мовы нам, беларусам, якраз і не хапае. А мо і тут якая-небудзь сучасна-камерцыйная загадка прыхавана? Чаму б, да прыкладу, з англійскамоўнай базай не пачаць родную мову вывучаць? Вось табе і экзотыка. А яшчэ мо ў Вялікабрытаніі ці ў ЗША пачнуць падручнікі для нас на беларускай мове выдаваць...

Ганна ЦІТАЎКА.

# ГІМН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## *Умовы і парадак правядзення конкурсу на стварэнне новага нацыянальнага гімна*

1. У конкурсе могуць прымаць удзел члены творчых саюзаў рэспублікі, а таксама іншыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі.

2. Не абмяжоўваць умовамі конкурсу жанравыя і музычна-стылістычныя накірункі будучага гімна. Асноўным патрабаваннем да твора павінна заставацца яго высокая мастацкая якасць: новы гімн павінен з годнасцю прадстаўляць нашу незалежную рэспубліку, яе народ.

3. Правесці конкурс да 1 студзеня 1992 года ў два этапы.

Завяршыць 1 этап 1 снежня 1991 года. Да гэтага тэрміну ўдзельнікі конкурсу павінны прадставіць у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь музыку (у выглядзе клавіра для хору з суправаджэннем) і тэкст (надрукаваны ў трох экземплярах) як створаныя сумесна кампазітарам і паэтам, так і паасобку. Кампазітары могуць карыстацца як тэкстамі сучасных аўтараў, так і літаратурнай спадчынай ранейшых часоў. Да прадстаўленых твораў, якія павінны мець дэвізы, дадаюцца канверты, у якіх знаходзяцца каардынаты творцаў: імя, прозвішча, адрас, месца працы.

Пасля адборачнага туру лепшыя літаратурныя і музычныя творы будуць набыты МК Рэспублікі Беларусь. На музычныя творы будзе зроблены дзяржзаказ з мэтай стварэння аркестравай партытуры для сімфанічнага і духавога аркестраў.

Другі тур завяршыць 1 студзеня 1992 года. Па выніках другога туру будуць выкананы творы выканаўчымі калектывамі рэспублікі перад журы, у якое ўвойдуць прадстаўнікі творчых саюзаў, Дзяржтэлерадыё, вучоныя, выканаўцы.

*І смех і грэх*

# ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ



— Гаварылі бабы, што Хведарава Ніна кінула мужыка і ў горад к дачцэ падалася.

— Як яна і так столькі гадоў мучылася? Не чалавека мела, а ізверга некага! Казала, набярэцца, як жаба твані, сшалее і з калом на яе: «Лезь, паскуда, пад стол і гаўкай!» Дык, паверыце, лезе бедалага са страху і гаўкае. А ён — калом па спіне: «Ты на каго, сука, брэшаш? Сваіх не пазнаеш?!»

— Не на тую напаў! Хоць розум ад водкі — кароткі, але я яму падтачыла б!..

* * *

— Нешта ты, Яніна, форс згубіла. Апусцілася саўсім, стапталася без пары. А некалі, бывала, як выйдзеш на сяло — бабы сваіх мужыкоў пад спадніцы хавалі.

— Смяяўся лысы з плешывага... Паглядзі, сава, якава сама!

* * *

— Мо чула, Маня, на каго вывучыўся Радзівонішын сын?

— Казала: некім малаведам у інстытуце робіць.

— Вой, першы раз чую такую прахвесію. Мусіць, дужа важная: кандзібоберам ходзіць, зямлі пад сабою не бачыць.

— А пусты колас заўсёды ўгору глядзіць.

* * *

— Каб вы, цётачка, ведалі, як мяне свякроў даймае! Без агню спячэ. І тое не так, і гэта не гэтак. Дочкамі сваімі ў вочы пора. І сына настрапаліла: арол — курыцы не пара.

Не магу больш, сыду з хаты куды вочы глядзяць!

— Цярпі, дзіцятка! Учарашняга дня не вернеш. Такая бабская доля. Хоць горка рэдзька, ды ядуць, дрэнна замужам, ды ідуць. А потым, вядомае дзела: кукушка — не птушка, нявестка — не дачушка.

* * *

— Па радзіву ўсё трубяць, што цэны адпусцяць. А я во не саабражаю, як яно будзе...

— Яна не саабражае! А ты помніш, што ўрабілася з тваімі гусьмі, як Анця адпусціла пагуляць свайго сабаку з ланцуга? Во-во... Толькі пух і пер'е ляцелі! Дык тое, міленькая, і з намі будзе. Гольцамі, як твой гусак, застанемся.

* * *

— Аж сэрца сціскае, як целявізер гляджу. Такое ўсюды ўсчалося: бяда бяду паганяе. Страляюць, нішчаць, добрых людцаў бежанцамі па свету пусцілі... Калі толькі гэтае гора адкоціцца?

— Запаліў чорт балота, ды некаму гасіць.

*Учула*
*Любоў ЛАМЕКА.*

*Пытайцеся — адказваем*

***Падкажыце, калі ласка, як стварыюцца маладзёжныя суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны?***

Ігар МАЦКО,
г. Мар'іна Горка.

Адказ на гэтае пытанне дае Статут ТБМ імя Ф. Скарыны. У пятым яго раздзеле — пра стварэнне суполак, у тым ліку і маладзёжных. А ў раздзеле «Юнацкія секцыі ТБМ» — пра характар дзейнасці маладзёжных суполак.

### V. АСЯРОДКІ ТАВАРЫСТВА

1. Аснова Таварыства — суполкі (тры і больш чалавек), імі могуць быць грамадскія аб'яднанні, клубы, гурткі і г. д. у працоўных калектывах, навучальных установах, грамадскіх і рэлігійных арганізацыях і г. д.

Змест і формы дзейнасці суполкі вызначае агульны сход.

Суполкі аб'ядноўваюцца ў раённыя (гарадскія) арганізацыі, якія на раённых (гарадскіх) сходах выбіраюць Раду і вырашаюць іншыя пытанні дзейнасці ТБМ у сваім рэгіёне. Рада мае права прымаць рашэнні пры наяўнасці не менш паловы яе складу.

Суполка і рэгіянальны орган Таварыства можа мець уласную назву і рахунак у банку. Суполка і рэгіянальны орган ТБМ арганізоўвае сваю дзейнасць у адпаведнасці са Статутам Таварыства.

2. Рэгіянальныя арганізацыі рэгіструюцца і каардынуюць сваю дзейнасць праз рэспубліканскія кіраўнічыя органы Таварыства.

Калі дзейнасць калектыўнай сябрыны не адпавядае Статуту Таварыства, Рада мае права скасаваць яе сяброўства ў Таварыстве.

### ЮНАЦКІЯ СЕКЦЫІ ТБМ

Юнацкія секцыі ТБМ (суполкі) бяруць удзел:

— у алімпіядах і конкурсах па беларускай мове і літаратуры;

— лекторыях, курсах і іншых формах асветніцкай дзейнасці і самаадукацыі;

— у гуртках і аб'яднаннях пры бібліятэках, клубах, музеях, пазашкольных дзіцячых установах, рэдакцыях газет і часопісаў і спрыяюць іх пераходу на беларускую мову;

— у краязнаўчым руху;

— у ахове і вывучэнні, рэстаўрацыйных работах на аб'ектах помнікаў гісторыі і культуры;

— у збіранні, вывучэнні і прапагандзе фальклору;

— у складанні фразеалагічных, тапанімічных, тэрміналагічных, дыялектных і іншых слоўнікаў, геаграфічных даведнікаў і паказальнікаў, картаў на беларускай мове, збіранні ўсіх моўных скарбаў;

— у вывучэнні і прапагандзе народных звычаяў, святаў, абрадаў;

— у музейна-этнаграфічным руху (збіранне экспанатаў, складанне картатэк, выстаў і г. д.);

— у мастацкай самадзейнасці;

— у экалагічных і прыродазнаўчых клубах;

— у прапагандзе беларускага друкаванага слова;

— у арганізацыйнай працы па адкрыцці беларускіх класаў, школ, груп;

— у шэфскай працы над беларускімі класамі, групамі ў школах і дзіцячых садах;

— у працы пастаянных камісій Таварыства, а таксама ў іншай дзейнасці, прадугледжанай Статутам ТБМ.



НА ЗДЫМКУ: удзельнікі дзіцячага фальклорнага калектыву «Пацеркі» Талачынскага раёна рыхтуюцца да выступлення.

Фота
А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА.

Калектыў рэдакцыі газеты «Наша слова» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказваюць глыбокае спачуванне рэдактару газеты Эрнэсту Васільевічу ЯЛУГІНУ ў сувязі з вялікім горам, што напаткала яго,— смерцю ЖОНКІ.

# Лякарня чараўніцы Потахі

*Спасылка ад перакладчыка.* З кнігі М. А. і І. М. Насаляў «Лекавыя расліны і спосабы іх прымянення ў народзе» мы даём толькі самыя асноўныя звесткі, не маючы магчымасці пазнаёміць чытачоў з усім багаццем народных спосабаў лячэння травамі. Думаецца, пры той беднасці друкаванай прадукцыі на беларускай мове (выдадзена ўсяго толькі адна кніга) па гэтай тэматыцы і наша публікацыя будзе карыснай.

Яшчэ больш бедныя нашы звесткі пра замовы, шэпты чараўніц. Спальванне на вогнішчы за сувязь са злымі духамі ў старажытнасці і турэмнае зняволенне за знахарства ў савецкі час — вось лёс бедных вясковых жанчын, што імкнуліся дапамагчы хворым і знямоглым.

Вядома, аб публікацыі ў друку тэкстаў замоў гэтых чараўніц не магло быць і гаворкі. Урыўкі іх, прыведзеныя намі, узяты толькі з дарэвалюцыйных выданняў.

Наўрад ці трэба папярэджваць аб іх больш этнаграфічнай, чым практычнай каштоўнасці. Згодзімся з шаптухамі: рассакрэчаныя, іх замовы губляюць усялякую сілу. Хоць сакрэт у іх слоў, відаць, дваіны, а то і трайны. Бо чаму мы «адкрытым тэкстам» гаворым адзін аднаму «Добры дзень!», «Будзьце здаровы!», «Шчалівага шляху!» і не дапускаем думкі, каб нехта выказаў іншае пажаданне? Пэўна ж, верым у сэнс добрых слоў...

А што сказаць пра ўрачыстыя тосты, якімі абменьваюцца як у самых «вярхах», на ўрадавых прыёмах, так і ў «нізах», у самых апошніх «забягалаўках» ці ў пад'ездах дамоў? І гэта пры ўсім нашым нявер'і ў знахарства і чараўніц. Праўда, і тут ёсць супярэчнасць: здавалася б, самымі здаровымі павінны быць тыя, хто выслухаў найбольш добрых пажаданняў. У жыцці ж бывае часта інакш... Што ж, сакрэтаў з чараўніцтвам яшчэ нямала...

Можна спаслацца і на іншыя прыклады. На тое, як многія прыстукваюць рукой па дрэву, каб не спраўдзілася дрэнная меркаванне, як прыгаворваюць у пэўных выпадках «не пра нас будзь сказана», як плююць тры разы пры гэтым. Ці рабілі б так людзі, калі б не верылі ў схаваную сілу слова?

Так што пры ўсім нашым практыцызме і веры выключна ў лекавыя якасці траў наўрад ці варта пры гэтым поўнасцю грэбаваць ведамі шаптух, ад назвы якіх, як кажуць, пайшло і само слова «ўрач».

Размова не пра абарону веры ў прымхі. Лячэнне травамі таксама яшчэ нядаўна афіцыйна лічылася знахарствам. Размова пра тое, што відавочна ўсім, што ніхто не можа адмаўляць.

А. СІЛЯНКОЎ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.058 паасобнікі. Зак. 2468. індэкс 74975.


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012